Наш адрас у Інтэрнэце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
18 кастрычніка 2001 г.
№ 42 (538)
Кошт 120 рублёў

## Абаронім нашу ПАГОНЮ!

Быццам кулі свіцяць
ля скроні -
Чыняць суд
над газетай ПАГОНЯ.
Абаронім
нашу ПАГОНЮ -
Беларускіх выданняў
гонар!

Алесь Шустоўскі, г.Барысаў

## Калі суседзі не маюць згоды

- Пераход «Кузніца-Брузгі» будзе зачынены менавіта 21 лістапада. Іншая дата не абмяркоўваецца. Па меншай меры, такой інфармацыяй я не валодаю, - заявіў ПАГОНІ прэсавы сакратар Галоўнага ўпраўлення памежнай аховы Польшчы Міраслаў Шанціла.

Нагадаем, што ў мінулым нумары ПАГОНІ прэс-сакратар Падляшскага ваяводы Томаш Сурыновіч назваў 25 кастрычніка, як дату закрыцця «Брузгоў». Гэтая дата, як стала вядома, не была ўзгодненая з афіцыйнай Варшавай. Адзначаў гэты факт і начальнік аддзялення пагранкантролю Гарадзенскага памежнага атрада Аляксандр Папіж.

На наступным тыдні на пераходзе «Брузгі-Кузніца» запланавана сустрэча прадстаўнікоў памежных ведамстваў абедзвюх краінаў. На сустрэчы будзе канчаткова адпрацаваны механізм закрыцця пераходу.

Павал Мажэйка

## Сібірская язва супраць беларускіх дзяцей

Сіндром сібірскай язвы стаўся прычынай прыпынення Ваўкавыскім адкрытым акцыянерным таварыствам «Беллакт» вытворчасці новага дзіцячага харчавання. На нямецка-польскай мяжы затрыманы набыты прадпрыемствам у Германіі вітамін. Парашок белага колеру, які змяшчае вітамін, з'яўляецца часткай новага дзіцячага харчавання. Мытнікі падазраюць, што ў парашку могуць знаходзіцца споры сібірскай язвы.

Вытворчасць прадукту дзіцячага харчавання новага пакалення Ваўкавыскае ААТ «Беллакт» распачало на мінулым тыдні. Яны прызначаныя для харчавання немаўлятак з першага дня жыцця і да года.

- Вытворчасць дзіцячага харчавання без нямецкага вітаміну немагчымая. Улічваючы крытычную сітуацыю з дзіцячым харчаваннем у рэспубліцы, прадпрыемства можа ўзнавіць вытворчасць новага, больш якаснага, дзіцячага харчавання, як толькі ААТ «Беллакт» атрымае нямецкі вітамін, праверыны на змяшчэнне ў ім жахлівай хваробы, якая апошнім часам скаланула свет, - паведаміў карэспандэнту ПАГОНІ выконваючы абавязкі дырэктара Ваўкавыскага ААТ «Беллакт» Вячаслаў Нарута.

Алесь Зарэмбюк



## НАДВОР'Е

18 кастрычніка ўначы малавоблачна, вецер паўночна-заходні, 2-5 м/с, тэмпература паветра +9...+11; раніцай воблачна, вецер заходні, 2-5 м/с, тэмпература паветра +6...+8 м/с; удзень воблачна, вецер паўночна-заходні, 2-5 м/с, тэмпература паветра +9...+11. 19 кастрычніка - воблачна, уначы вецер паўночна-заходні, 2-5 м/с, тэмпература паветра +9...+11, удзень вецер паўночна-заходні, 1-3 м/с, тэмпература паветра +11...+13.

# На бязрыб'і і сам мэрам станеш!

**Калі прытрымлівацца тэрміналогіі намесніка старшыні аблвыканкама Мікалая Прысады, які працэс прызначэння кандыдата на вызваленую Анатолем Пашкевічам пасаду старшыні Гарадзенскага гарвыканкама вобразна называе «зачаццем», то дагэтуль усе спробы абласной вертыкалі «апладніць» пустэльны кабінет у будынку, размешчаным за спіною правадыра сусветнага пралетарыяту, заканчваліся «выкідышамі».**




Бязмэр'е... Роўна месяц Гродна жыве без старшыні гарвыканкама. І, наколькі вядома ПАГОНІ, пытанне адносна будучага гарадскога галавы ўсё яшчэ застаецца адкрытым. Прынамсі, у Адміністрацыі прэзідэнта, якая займаецца зацвярджэннем на пасадах усіх беларускіх вертыкальшчыкаў, пра нейкіх кандыдатаў на пасаду кіраўніка абласнога цэнтра нам сказаць не змаглі. «Пра гэта вам лепей спытаць у сваім аблвыканкаме», - параілі карэспандэнту ПАГОНІ ў Менску.

- Я не буду адказваць на Ваша дзіўнае пытанне, - такімі словамі адрэагаваў на рэкамендаваны нам прэзідэнцкай Адміністрацыяй спосаб атрымання інфармацыі Мікалай Прысада, што курыруе ў аблвыканкаме кадравую палітыку. - Таму, што Вы сам дзіўны...

Што дзіўнага ў журналісце, які цікавіцца важнай для горада праблемай, Мікалай Яфімавіч не патлумачыў.

Зрэшты, неадэкватную рэакцыю чыноўніка можна вытлумачыць сур'ёзнымі праблемамі, з якімі сутыкнулася ўлада, шукаючы кандыдата на пасаду старшыні гарвыканкама. Дакладна вядома, што ад падобнага гонару адмовіўся, яшчэ некалькі тыдняў таму самы рэальны прэтэндэнт, дырэктар Камбіната будматэрыялаў Леанід Лучына. Аналагічна зрабілі і многія іншыя кіраўнікі гарадзенскіх прадпрыемстваў. Прычынаў гэтаму некалькі.

Першая - нізкі, у параўнанні з вытворчасцю, аклад гарадскога вертыкальшчыка. Калі дырэктар завода можа зарабляць да 600 тысяч рублёў у месяц, то старшыня гарвыканкама - толькі каля 240 тысяч рублёў.

Другая - гарадская гаспадарка знаходзіцца ў даволі складаным становішчы. Паводле неафіцыйных дадзеных, гарадская казна, збузаваная падчас прэзідэнцкай кампаніі, - зусім парожняя. А на носе зіма, гэта значыць - бесперастанныя выдаткі (ацяпляльны сезон, снегаўборка...) плюс мерапрыемствы па энергазберажэнню ў выглядзе веернага адключэння ўсяго, што свеціць і грэе і, як вынік, прэтэнзіі гараджанаў, прачуханцы ад вышэйшага начальства, а таксама іншыя «прывабнасці» чынавенскага быцця, што вядуць да ўзнікнення комплексу хранічна ўшчымленай годнасці.

Але нават такія непрыемнасці многія пагадзіліся б пераносіць са стойкасцю алавянага салдаціка, калі б «вертыкальная» пасада адкрывала ў перспектыве хаця б маральную ўзнагароду «за намаганні», не кажучы ўжо пра матэрыяльную выгаду. Аднак прыклад Анатоля Пашкевіча паказвае, што не тое, ні другое не гарантавана. Чалавек, які пяць гадоў верай і праўдай служыў рэжыму ў ледзь не самым апазіцыйным горадзе Рэспублікі Беларусь, быў рады магчымасці ціха пайсці на пасаду дырэктара «Гроднахлебпрама». Прычым, не атрымаўшы на развітанне і слова ўдзячнасці ў дзяржаўнай прэсе.

Гэта, зрэшты, нядзіўна. Пры новым старшыні аблвыканкама Уладзіміры Саўчанку ў жыцці ў Анатоля Міхайлавіча яшчэ могуць надыйсці цяжкія часіны. Пра тое, што праваахоўныя органы не схільныя цырымоніцца са старой вертыкаллю, сведчыць арышт Віктара Пракопчыка (гл.ПАГОНЮ N41 ад 11 кастрычніка). Не выключана, што ў кожнага вылучэнца Аляксандра Дубко за плячыма ёсць які-небудзь левы «трактар»... Наогул, апрача нерваў, прыніжэння і цьмяней жыццёвай перспектывы пасада кіраўніка выканкама ў сучаснай Беларусі, як правіла, нічога не нясе. У адрозненне ад дырэктарскага корпусу, дзе яшчэ моцная карпаратыўнасць, а таксама гадамі напрацаваныя ведамасныя ды іншыя сувязі. Чаго вартая хаця б беспакаранасць (спадзяемся, часовая) кіраўніцтва «Радыёхвалі», якое загразла ў крадзяжах (гл.ПАГОНЮ N41).

Такім чынам, дасведчаныя гаспадарнікі (а менавіта такога чалавека, паводле словаў кіраўніка ўпраўлення інфармацыі і друку аблвыканкама Уладзіміра Амелькі, павінны прызначыць старшынём гарвыканкама) ухіляюцца ад заняцця самай высокай у Гродне службовай вакансіі.

Што гэта азначае? Для нас з вамі, шаноўныя гарадзенцы, нічога добрага. Пасля таго, як ад пасады адмовіліся самыя разумныя, проста разумныя і - так скажам - не дурні, на яе можа прэтэндаваць хто папала. Тым больш, што аблвыканкам ужо апынуўся ў цэйтноце. Рэарганізацыя ўладных структураў, якая пачалася з ўрада і з пачаткам лістапада павінна дакаціцца да мясцовых выканкамаў, патрабуе ад абласной улады прыняцця важнейшага для горада кадравага рашэння ў бліжэйшыя тыдні, калі не дні. Бо хто, як не новы старшыня павінен будзе правесці рэарганізацыю падраздзяленняў гарвыканкама? Каму, як не яму, давядзецца ажыццявіць балючае для многіх работнікаў гэтай установы 10-працэнтнае скарачэнне штату? Ужо сёння на азнаямленне з калектывам і ацэнку карысных і некарысных кадраў у будучага старшыні засталося катастрафічна мала часу. У аблвыканкаме гэта разумеюць, але трымаюць вымушаную паўзу, што можа абумовіць прызначэнне самага нечаканага рашэння паводле прынцыпу «на бязрыб'і і сам ракам станеш». Цяжка разлічваць на тое, што чалавек, пастаўлены такім чынам на першую ў горадзе пасаду, здолее апраўдаць чаканні яго жыхароў.

Анджэй Пісальнік

## ПАГОНЯ

**Выбяры сваю падпіску!**

На два месяцы!!!

Індывідуальная - 960 р.
Індэкс - 63124

Ведамасная - 4.000 р.
Індэкс - 63348

Ільготная - 800 р.
Індэкс - 63665

пры прадастаўленні квітка падпіскі за папярэдні перыяд



**Калі Вы хочаце дапамагчы ПАГОНІ і не ведаеце, як гэта зрабіць - аформіце падпіску на нашу газету. Папрасіце зрабіць тое ж самае сваіх суседзяў, знаёмых, сваякоў! Разам мы абаронім ПАГОНЮ ад цемрашалаў!!**

**Падпіска прымаецца ў кожным паштовым аддзяленні. На лістапад можна падпісацца да 20 кастрычніка, на снежань - да 20 лістапада.**

**Падпісацца можна таксама і ў рэдакцыі газеты па адрасе К.Маркса, 11 (другі паверх), альбо па тэлефоне 72-29-96**

# Доўгая дарога да Храма



Ніна Лебядок аддала пад Беларускую Царкву кавалак свайго агарода



Архіепіскап Юры Рыжы ды першы сакратар амерыканскай амбасады Джон Кунштадтэр закладаюць у падмурак будучага храма капсулу з пасланнем для нашчадкаў

**«Можна супакоіцца. Цяпер мы штодня будзем прыходзіць да Цябе ў нашу царкву», - бы некаму блізкаму і роднаму сказала Ніна Лебядок, калі два будаўнікі скончылі кідаць цэмент у шчыліну падмурка. У мінулую суботу ў пасёлку Пагранічны, што на Берастаўшчыне, асвячалі месца, дзе ў хуткім часе паўстане Беларускі Храм Ефрасінні Полацкай - першы ў краіне царкоўны комплекс Беларускай Аўтакефальнай Народнай Праваслаўнай Царквы (БАНПЦ). На вачах у жыхаркі Пагранічнага, якая аддала пад пабудову царквы добры кавалак свайго гарода, заблішчэлі слёзы радасці, якраз у той момант, калі сонца ўпершыню разбіла гэты, здавалася, страчаны, у сэнсе надвор'я, дзень...**

Асвячэннем месца будучага царкоўнага комплексу ў гэтым прымежным мястэчку Гарадзенскай вобласці скончылася, можна спадзявацца, больш чым двухгадовае змаганне з «вертыкаллю» і прадстаўнікамі Маскоўскага патрыярхату, айца Яна Спасюка - святара мясцовага прыходу БАНПЦ. У 2000 годзе за сваё жаданне праводзіць набажэнствы Спасюк атрымаў пяць сутак арышту. У бягучым годзе міліцыянты закоўвалі яго ў кайданкі, а Бераставіцкі раённы суд пакараў штрафам у пяць мінімальных заробкаў. Вытрымаць усё гэта, паводле словаў святара, яму дапамаглі толькі прыхаджане, духоўную падтрымку якіх ён адчувае заўсёды.

Набажэнствы ў Пагранічным адбываюцца вось ужо з год, у вялікім вайсковым намёце, дзе пачэснае месца займае абраз Святой Ефрасінні Палацкай, імем якой і будзе названа царква.

Ва ўрачыстасцях закладкі першага Беларускага храма ўзяў удзел архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Народнай Праваслаўнай Царквы Юры Рыжы, які прыляцеў у Беларусь з Нью-Ёрку нягледзячы на паважны ўзрост і перанесеную ў красавіку аперацыю на сэрцы. Адведаўшы традыцыйнага хлеба-солі, архіепіскап памаліўся разам з парафіянамі за ахвяраў тэракта ў ЗША і за будучыню Храма Ефрасінні Полацкай.

Пасля Крыжовага ходу з харугвамі, Юры Рыжы ды першы сакратар Амерыканскай амбасады ў Беларусі Джон Кунштадтэр заклалі ў падмурак будучай царквы капсулу з пасланнем нашчадкам. Пасланне дабраславіў **Юры Рыжы:**

*- Паважаныя нашчадкі, узлюбіце адзін аднаго, каб мы, беларусы, сталі сапраўдным народам. Адраджайце беларускую царкву, захавайце родную мову і памятайце тых, хто аддаў сваё жыццё і духоўны запал гэтай справе. Мы спадзяемся, што Госпад Бог дарue Вам лепшы шлях і добрую долю.*

Свята-Ефрасінеўскі прыход у Пагранічным па-ранейшаму, нягледзячы на шматлікія спробы вернікаў, адмаўляюцца рэгістраваць у Гарадзенскім аблвыканкаме. На апошняй сустрэчы з журналістамі ў жніўні бягучага года кіраўнік Савета па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў аблвыканкама Ігар Папоў даў зразумець, што праблема з рэгістрацыяй прыхода надумана журналістамі.

У сваю чаргу, у суботу на падмурках будучага храма айцец Ян Спасюк выказаў пажаданне ўжо ўлетку наступнага года правесці набажэнства ў збудаванай царкве. А вайсковы намёт пойдзе па іншых мясцінах Беларусі, дзе паўстануць новыя Беларускія храмы.

**Павал Мажэйка**



Архіепіскап Юры Рыжы прыляцеў на асвячэнне месца, дзе ў хуткім часе паўстане храм Ефрасінні Полацкай ажно з Нью-Ёрку

## Кастрычніцкія маразы

**Пачынаючы з 20 кастрычніка, начная тэмпература паветра ў Беларусі панізіцца да 5 градусаў марозу, а дзённая - да 3-8 градусаў цяпла.**

Прычым, як паведаміла сіноптык Беларускага гідрамэтцэнтра Ларыса Санкевіч, у Беларусі магчымы ападкі ў выглядзе снегу. Паводле яе словаў, халоднае надвор'е будзе трымацца да 22 кастрычніка, а потым пачнецца нязначнае пацяпленне.

**Марат Гаравы**

## Ці будзе новы рэферэндум?

**Прайшло больш як месяц са дня выбараў, але дагэтуль незразумела, на што накіруе А.Лукашэнка сваю ўладную волю. Трэба думаць, што ён і сам яшчэ не вырашыў, у які бок весці свой народ.**

Усе сем гадоў свайго кіравання ён умацоўваў дзяржаўную ўладу. Што, у прынцыпе, няблага. Праблема ў тым, што дзяржаўнасць Аляксандр Лукашэнка атаясамляе толькі са сваёй уласнай уладай прэзідэнта краіны. Ён, як сквапны капіталіст, грабе толькі пад сябе. Таму ніякай карысці ад ягонага ўмацоўвання ўлады няма нікому, акрамя самога А.Лукашэнкі.

Ён, праўда, паспрабаваў турбавацца пра народ, загадаў узняць вытворчасць, падвысіць ураджайнасць, пабудаваць жылплошчу, даць усім бясплатную медыцыну і адукацыю. Чыноўнікі адрапартавалі, што загад выкананы, распавялі пра лічбы росту прамысловасці ды эфектыўнасці калгаснай гаспадаркі, колькасць квадратных метраў жылля, шпітальных ложкаў і навучэнцаў. А.Лукашэнка гэтым задаволіўся.

Што будзе рабіць Аляксандр Лукашэнка наступныя пяць год? Яшчэ мацней умацоўваць прэзідэнцкую ўладу? Аддаваць новыя загады аб паляпшэнні жыцця народа? Такі варыянт быў бы для яго ідэальным. Бо ўлада яму патрэбная дзеля ўладарання. Як няспынны працэс, як шоу, як канцэрт. Мэта і працэс для яго злітыя разам.

Аднак, А.Лукашэнка не можа дазволіць сабе ісці гэтым шляхам, як бы не хацелася. Эканоміка патрабуе рэформаў, электарат патрабуе росту заробкаў, а не міфічных працэнтаў росту, у параўнанні з 90-м годам. Алігархі з ўсходу і дзялкі з захаду патрабуюць сваёй долі. Як ён сам казаў, «наўкол ворагі».

Думаецца, Аляксандр Лукашэнка пойдзе праверанымі шляхамі, якія раней дапамог яму захаваць уладу. Ужо сёння ходзяць чуткі, што на сярэдзіну будучага года запланавана правядзенне чарговага рэферэндуму. Фармальна на рэферэндум будзе ўнесенае пытанне аб стварэнні органаў саюзнай дзяржавы Беларусі ды Расеі. Тым часам будзе арганізавана народная ініцыятыва аб наданні А.Лукашэнку пажыццёвых прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Калі з ініцыятывай «не выгарыць», то можна ізноў зьмяніць Канстытуцыю і распачаць адлік прэзідэнцкага тэрміну гады на тры-чатыры пазней. Галоўнае - перасядзець Уладзіміра Пуціна, чые два тэрміны скончацца ў 2008 годзе, а тады зноў спрабаваць заняць Крэмль.

Усё астатняе - эканоміка, культура, медыцына - другаснае. Гэтым могуць заняцца разнастайныя ярмошны, навіцкія, - якая розніца. Галоўнае - каб шоу не спынялася.

**Сяргей Самасей**

## У Гродне будзе зона

**Гарадзенскі аблвыканкам ужо трэці раз за год паспрабаваў стварыць у абласным цэнтры свабодную эканамічную зону (СЭЗ). Праект СЭЗ «Гроднаінвест» зараз ізноў вывучаецца урадам. Паводле словаў старшыні камітэта па эканоміцы і рынкавых адносінах аблвыканкама Галіны Ляшчук у выпадку чарговага непрыняцця Саветам Міністраў арыгінальнага гарадзенскага праекту стварэння СЭЗ, аблвыканкам вымушаны будзе пагадзіцца на зону, аналагічную ўжо дзеючым у рэспубліцы.**

Ноу-хау Гарадзенскай свабоднай эканамічнай зоны, у параўнанні з іншымі, павінна стаць увядзенне прапарцыйнага прынцыпу зніжэння падатковай нагрузкі. Так, ва ўсіх СЭЗ рэспубліокі стаўка падатку фіксаваная і складае, напрыклад, на падатку на дадатковую вартасць 10 працэнтаў замест 20-ці, а па падатку на прыбытак - 15 працэнтаў замест 30-ці. Гэта азначае, што ў выпадку зніжэння падатковага ціску ў краіне, падаткі ў гэтых свабодных эканамічных зонах аўтаматычна не зьмяншаюцца. У СЭЗ «Гроднаінвест» стаўку падатку прапаноўваецца вызначыць паводле прынцыпу 50 працэнтаў ад агульнапрынятай. Гэта гарантуе інвестарам, што яны, як удзельнікі СЭЗ, заўсёды будуць плаціць толькі палову ад стаўкі звычайных падаткаў.

Яшчэ адной асаблівасцю Гарадзенскай зоны павінна стаць тое, што ў ёй прыярытэт будзе аддадзены навукаёмістай вытворчасці, а таксама стварэнню прадпрыемстваў, зарыентаваных на экспарт прадукцыі. Менавіта зыходзячы з гэтых прынцыпаў, на конкурснай падставе адміністрацыя эканамічнай зоны будзе прызнаваць суб'ектам гаспадарання статус удзельніка СЭЗ.

У адрозненне ад Берасцейскай СЭЗ, створанай у «чыстым полі», Гарадзенская ахопіць сектары прамысловай забудовы з усімі інжынернымі камунікацыямі, што значна палегчыць інвестару арганізацыю вытворчасці. Ёсць у Гарадзенскай СЭЗ і іншыя перавагі, сярод якіх не апошнюю ролю адыгрывае геаграфічнае становішча, а менавіта, блізкасць Польшчы і Літвы. Многія бізнесмены з гэтых краінаў ужо пазнаёміліся з праектам СЭЗ «Гроднаінвест» і ацанілі яго. Пра гэта сведчыць (ужо стала дзяжурным) пытанне на адрас аблвыканкама: «Калі будзе зона?» Галіна Ляшчук абяцае, што хутка. Паводле папярэдніх дадзеных, праект Гарадзенскай СЭЗ і ва ўрадзе ацэньваюць станоўча.

**Анджэй Пісальнік**

ВОДГУК

## Алесю Чобату

**У адказ на публікацыю «Жыць былое жыць» (ПАГОНЯ N41 ад 11 кастрычніка)**

Жыў чалавек. І як вядзецца,
Здаецца, меў сяброў. Здаецца...
Быў беларус. І як вядзецца,
Здаецца, гонар меў. Здаецца...

Жыў-быў паэт. І як вядзецца,
Здаецца, розум меў.
Здаецца...

**Святлана Куль**

## Міс Журавінку выбярэ Марк Рудзінштэйн

**У нядзелю, 21 кастрычніка, у гатэлі «Турыст» адбудзецца гарадзенскі адборавы тур на II Рэспубліканскі конкурс «Міс Журавінка».**

Фінал конкурсу пройдзе 3-га лістапада ў Менскім культурна-забаўляльным комплексе «Журавінка» і абяцае стаць адметнай падзеяй. Квіток, як паведамілі нам у арт-дырэкцыі арганізатараў конкурсу фірмы «Минселко», будзе каштаваць 150 тысяч рублёў. У праграме конкурснага вечара - вячэра з алкагольнымі напоямі, паказы калекцыі бялізны і адзення, начная дыскатэка.

У журы конкурсу ўвойдуць VIP-персоны: прэзідэнт кампаніі «Кінатаўр» Марк Рудзінштэйн, памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў, намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка ды іншыя.

«Міс-Журавінка-2001» у якасці галоўнага прыза атрымае аўтамабіль «Fiat Punto».

Арганізатары гарадзенскага адборавага туру - мадэльнае агенцтва «Юніарт». У фінал з усіх абласных цэнтраў пройдзе толькі 12 красунь.

**Алена Сіневіч**

## Бізнес-мода для жыцця

**У чацвер а 16-й гадзіне ў дэманстрацыйнай зале гарадзенскага Дома быту адбудзецца паказ новай калекцыі адзення «Мода для жыцця».**

Дызайнеры адзення Вольга Пянькова, Ганна Равінская, Вольга Кузьміч прапануюць разнастайны асартымент убранняў прэт-а-партэ на восень. Ідэя калекцыі - паказаць вопратку ў бізнес-стылі, адначасова дзелавое і з вытанчанымі рысамі жаноцкасці. У Доме быту будзе паказана шмат мадэляў паліто, стыльныя касцюмчыкі ды калекцыйныя сукенкі. Усе гэтыя мадэлі можна будзе набыць тут жа, у фірмовай краме.

**Алена Сіневіч**

## Белашэўскі - амбасадар у Літве?

**У Гродне актыўна распаўсюджваюцца чуткі, што начальнік абласной міліцыі генерал Анатоль Белашэўскі будзе прызначаны амбасадарам Рэспублікі Беларусь у Літве.**

**Даведацца падрабязнасці ў самога Анатоля Белашэўскага ПАГОНІ не ўдалося - Анатоль Аляксеевіч знаходзіцца ў адпачынку.**

**Сітуацыю праясніў прэс-сакратар Міністэрства замежных справаў Беларусі Павал Латушка. Ён паведаміў літаральна наступнае:**

**- Сёння замежнапалітычную місію Беларусі ў Літве ажыццяўляе Уладзімір Гаркун. Рашэнне аб змене амбасадара прымае прэзідэнт Беларусі, які выдае дзеля гэтага адпаведны ўказ. Мы лічым, што сёння пытанне аб змене амбасадара ў Літве не стаіць.**

## Бераставіца на лініі змагання з сібірскай язвай

**Санітарныя службы Бераставіцкага раёна праводзяць мерапрыемствы, звязаныя з прафілактыкай сібірскай язвы. Галоўны ветурач раёна Галіна Балюк запэўніла ПАГОНЮ, што «жыхары раёна могуць спакойна жыць і працаваць, не турбуючыся пра сваё здароўе».**

**Бераставіцкі раён у плане захворванняў на сібірскую язву з'яўляецца найбольш неспрыяльным у вобласці. На тэрыторыі раёна знаходзяцца шэсць гаспадарак, дзе ў 50-70-х гадах XX стагоддзя, былі зафіксаваныя выпадкі «сібіркі» ў жывёлаў, 10 пунктаў пахаванняў хворай жывёлы ў раёне абгароджаныя і ахоўваюцца.**

**Санітарная служба раёна праводзіць планавую бясплатную вакцынацыю людзей, якія маюць дачыненне да працы з тушамі жывёлаў.**

## «Радыётэхніку» зноў адключаць

**У другі раз за апошні месяц спыненне працы пагражае ашмянскаму заводу «Радыётэхніка». У панядзелак, як папярэдзілі кіраўніцтва прадпрыемства мясцовыя энергетыкі, яны адключаць завод за няўплату. Да таго ж, рабочыя «Радыётэхнікі» яшчэ не атрымалі цалкам заробак за жнівень.**

**Рабочыя, як паведаміў ПАГОНІ старшыня прафкама завода Іван Амбражэвіч, разглядаюць магчымасць страйка.**

**Аднак самі не вераць у дзейснасць падобнага спосабу абароны сваіх інтарэсаў:**

***- Такое прадпрыемства як нашае, мала каго хвалюе з кіраўніцтва вобласці ды краіны. Каму гэта трэба: клапаціцца пра наш заробак ці пра набыццё сыравіны,* - падкрэсліў Іван Амбражэвіч.**

**На сённяшні дзень прадпрыемства фактычна працуе на падатковую інспекцыю. На мінулым тыдні «падаткавікі» арыштавалі на «Радыётэхніцы» аўтамабілі, кампутарную тэхніку, гатовую прадукцыю. Усю выручку з касы заводскай крамы забірае падатковая інспекцыя за даўгі па падатках, якія складаюць каля 60 мільёнаў рублёў.**

**Павал Мажэйка**

# Смачна есці?..

## Каўбасу з Гарадзенскага мясакамбіната

**Тысячы гарадзенцаў выратавала ад эпідэміі дызентэрыі работніца Гарадзенскага мясакамбіната Святлана Рудкоўская. Аднак, кіраўніцтва прадпрыемства палічыла гэта здрадай і вымусіла жанчыну звольніцца з працы. У адказ на гэта Святлана падала на мясакамбінат у суд. Суддзя Ленінскага раёна горада Гродна Юрый Шчыглінскі абавязаў кіраўніцтва мясакамбіната выплаціць жанчыне 1.200 тысячаў рублёў.**

**Цяпер маладая жанчына патрабуе таксама кампенсацыі за маральны ўрон, нанесены ёй кіраўніцтвам мясакамбіната.**

Маці-адзіночка Святлана Рудкоўская працавала на гарадзенскім мясакамбінаце 13 гадоў. Апошнім часам на пасадзе расфасоўшчыцы мясапрадуктаў аддзялення паўфабрыкатаў каўбасна-кулінарнага цэха. «Блуканні па пакутах» жанчыны пачаліся 16 траўня бягучага года, калі Святлана была дастаўлена хуткай дапамогай у абласны інфекцыйны шпіталь з дыягназам «дызентэрыя сярэдняй ступені цяжару».

Галоўным, у чым кіраўніцтва мясакамбіната пасля абвінавацілa Рудкоўскую, стала, паводле словаў Святланы, тое, што пры афармленні ў шпіталь яна шчыра сказала ўрачам, што працуе на мясакамбінаце.

Ужо на наступны дзень, 17 траўня, у каўбасна-кулінарным цэху мясакамбіната з'явіліся спецыялісты гарадскога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. На працягу пяці дзён у блізу 200 рабочых былі ўзяты кантрольныя мазкі, аднак сімптомы дызентэрыі выяўленыя не былі. Пра гэта сведчаць і заключэнні санэпідэміёлага. Што дзіўна, бо адпаведна сусветнай практыцы, 10 працэнтаў з ліку тых, каго падазраюць на дызентэрыю, абавязкова з'яўляюцца хворымі. Для таго, каб зразумець, чым пагражае дызентэрыя грамадству, дастаткова адзначыць, што прычынай смерці пяці мільёнаў немаўлятаў у свеце стала менавіта дызентэрыя.

Пасля санітарнай праверкі Святлана, якая яшчэ лячылася ў шпіталі, патрапіла ў няміласць да кіраўніцтва мясакамбіната.

- Кіраўніцтва мясакамбіната пачало падазраваць, - адзначае Святлана, - што я наўмысна лягла з дызентэрыяй у шпіталь, не падумала пра людзей, з якімі працавала, і пра наступствы на вытворчасці. Бо санстанцыя магла закрыць каўбаснa-кулінарны цэх ці вытворчасць сыравэнджаных каўбасы. А чаму ж кіраўніцтва не падумала пра дзесяткі тысяч гарадзенцаў, якія маглі б з'есці каўбасу з кішэчнай палачкай?

Пасля выпіскі са шпіталя 5-га чэрвеня Рудкоўская адразу звярнулася да начальніцы каўбасна-кулінарнага цэха Тацяны Кузьміцкай з просьбай матэрыяльнай дапамогі, бо ўсе грошы былі затрачаныя на лячэнне. На што начальніца, паводле словаў Святланы, груба адказала:

- Хай табе дапамогу аказвае той, хто цябе лячыў. Мне твая хвароба абыйшлася даражэй, чым табе.

Святлана лічыць, што заразілася дызентэрыяй на працы:

- Падобныя захворванні нярэдкія на мясакамбінаце. Аднак людзі займаюцца самалячэннем. Дзеля таго, каб працаваць, каб выжыць, людзі ўтойваюць падчас агляду ў шпіталях месца сваёй працы. Старшы майстар каўбасна-кулінарнага цэха Любоў Сяргей, калі даведалася, што я шчыра сказала ў шпіталі, дзе працую, назвала мяне «дурной канарэйкай». І дадала, што ў турме для прафілактыкі дызентэрыі жуюць заварку.

Як сведчаць самі рабочыя мясакамбіната, на прадпрыемстве неадноўчы выяўляліся хворыя на сальманелёз, бруцэлёз, гепатыт, лептаспіроз. Прыблізна два гады таму дзве дзяўчыны былі хворыя на пранцы і ганарэю. Аднак, гэтая справа была замята - дзяўчатам проста далі два тыдні адпачынку на лячэнне.

Рудкоўская была тэрмінова выкліканая ў аддзел кадраў мясакамбіната, дзе начальніца аддзела Людміла Кобрына папярэдзіла: «Кузьміцкая не хоча цябе бачыць у сваім цэху, што будзем рабіць?».

- Я адказала, што ва ўбойны цэх не пайду. Бо гэта ўсё адно што згніць заЖыва. Тым больш я - алергетык. Тады Кобрына прапанавала мне працу прыбіральшчыцы вытворчых памяшканняў з акладам у 50 тысяч. І гэта пасля 13-ці гадоў адказнай працы!

За столькі гадоў працы Святлана прывыкла падпарадкоўвацца загадам начальства. Яна спадзявалася, што праз пару месяцаў усё сціхне, яе «бяздумная» праўда ў шпіталі забудзецца і яе вернуць на старое месца працы. Яна напісала заяву на працу прыбіральшчыцы. Аднак яе новы начальнік адмовіўся падпісаць гэтую заяву, сказаў, што за 50 тысяч яна не здолее пракарміць сябе і дзіця.

- Я апынулася нібыта ў тупіку. З аднаго цэха выгналі, а на другі не ўзялі. Я стала непажаданай. Гэта была змова кіраўніцтва. Такім чынам яны выжылі мяне з мясакамбіната...

...Два тыдні таму Святлана Рудкоўская сустрэлася з дырэктарам мясакамбіната Анатолем Грышуком. На пытанне, за што яе звольнілі, ён адказу не даў і «пабацькоўску» параіў не прымаць блізка да сэрца, не мучыць сябе і пажадаў поспехаў на новым месцы працы.

**Павал Мажэйка**



Фота IREX/ProMedia

# Свінні кампенсуюць прэзідэнцкі грант

**Пяць дзікіх парсючкоў прадаў днямі Гарадзенскі заапарк у прыватныя рукі. Яшчэ пяць дзвюхмесячных в'етнамскіх свінак чакаюць сваёй чаргі.**

Са словаў дырэктаркі заапарка Цэліны Пагерыла, ім дастаткова ўтрымліваць адну пару дарослых дзікіх свіней, таму ўжо другі год іх прыплод рэалізоўваецца насельніцтву па концы хатніх свіней.

Супрацоўнікі заапарка, заробак якіх (50-60 тысячаў у месяц) вымушае трымаць гаспадарку, дзікіх свіней разабралі адразу. У хатніх умовах такіх свіней утрымліваць нескладана. У ежы яны непераборлівыя. Адкормліваюць свіней да дзесяці месяцаў і за гэты час яны набіраюць вагу да 100 кілаграмаў. Далей вырошчваць іх небяспечна. Дасягнуўшы аднаго года, якія свінні становяцца агрэсіўнымі. А вось «в'етнамцаў» бяруць неахвотна.

- Яны даражэйшыя за дзікіх свіней, - тлумачыць Цэліна Пагерыла. - Мы прадаем іх па 30 тысячаў, хоць іх бацькоў набывалі за 50 даляраў. І па памерах яны меншыя. Дарослыя в'етнамскія свінні важаць 60 кілаграмаў.

Заапарк прадае свіней і зарабляе такім чынам сабе на жыццё, бо ад уладаў дапамога перападае рэдка, а калі штосьці і выдаткоўваецца, то даходзіць з цяжкасцю. Прэзідэнцкі грант, напрыклад, які быў выпісаны заапарку ажно 11 верасня, «завіс» дзесьці ў Менску. Але кіраўніцтва заапарка спадзяецца ўсё ж атрымаць грошы і купіць на іх новых жывёлінаў у Пецярбургскім і Каўнаскім заапарках.

**Алеся Сідлярэвіч**

АПЫТАННЕ

## Бульбу смажаць, бульбу параць...

**Не за гарамі зіма і сустрэць яе трэба з запасамі. Галоўны харчпрадукт беларусаў, вядома, бульба. Таму карэспандэнтка ПАГОНІ і выйшла на вуліцы Гродна, каб запытацца ў прахожых:**

***- Ці нарыхтавалі вы ўжо бульбу на зіму?***

**Антаніна, пенсіянерка:**

- А як жа? Нарыхтавала. Набыла на базары па 170 рублёў за кілаграм. Прадаўцы нават дахаты бульбу прывезлі і ў падвал занеслі. Два мяшэчкі мне на зіму дастаткова.



**Вера, пенсіянерка:**

- Не яшчэ. Я жыву толькі з пенсіі. А яна невялікая - 47 тысяч. Зараз жа трэба будзе за газ плаціць, ацяпленне. За што ж тут бульбу купляць?

**Іван, часова беспрацоўны:**

- Так. Накапаў бацькоўскай бульбы ў вёсцы. Слабая яна гэты год атрымалася. Але ў мяне меншая гаспадарка стала - і, думаю, нават змагу нейкую частку бульбы прадаць.



**Тамара, служачая з Навагрудка:**

- Нарыхтавала. Капала ў сяброўкі - і зарабіла трохі бульбы сабе. Праўда, ураджай сёлета не вельмі выдаўся.

**Валодзя, пенсіянер:**

- Ужо маю 600 кілаграмаў бульбы і яшчэ 100 патрэбна - тады на ўсю сям'ю хопіць. Ненадта на смак гэтым годам бульба вырасла. Ды і кошты на яе нашмат вышэй, чым раней. 200 кілаграмаў я па 170 рублёў закупіў, а 400 - па 160.

**Анатоль Лявонцьевіч, пенсіянер:**

- Я з вёскі і ўжо выкапаў сваю бульбу. Слабей яна, чым ў мінулыя гады ўрадзіла, надвор'е не спрыяла. Таму і падаражэла яна. Як раней добры ўраджай на бульбу быў, то і кошты малыя былі, а зараз наадварот.

**Вольга, студэнтка ГрДзУ імя Я.Купалы:**

- Я бульбу не вельмі люблю, але бацькі мае нарыхтоўваюць яе кожны год.



**Саша, беспрацоўны:**

- Так, набылі ўжо даўно па 180 рублёў за кілаграм. Дорага, бо кепска ў гэтым годзе бульба ўрадзіла.

**Збірала Алеся Сідлярэвіч**







# Калінінград далучыцца да Еўрарэгіёна «Нёман»

**11-12 кастрычніка гарадзенская дэлегацыя бюро Еўрарэгіёна «Нёман» і навуковай лабараторыі пры ГрДзУ ўдзельнічала ў навучальным семінары па праблемах памежнага супрацоўніцтва, які прайшоў у горадзе Светлагорску Калінінградскай вобласці. Пра перспектывы супрацоўніцтва з Калінінградскай вобласцю мы гаворым з кіраўніком дэлегацыі з Гродна, начальнікам аддзела знешнегандлёвых сувязяў аблвыканкама Віктарам Здачуком.**

***- Што абмяркоўвалася на семінары?***

- Гаворка ішла аб прававых асновах і праблемах памежнага супрацоўніцтва, пра стан супрацоўніцтва Калінінградскай вобласці з рэгіёнамі Балтыйскага мора, Польшчай і Літвой.

***- Якая роля адводзілася беларускай дэлегацыі?***

- Мы асвятлялі стан памежнага супрацоўніцтва ў межах Еўрарэгіёна «Нёман». Мы маем тавараабарот, культурныя абмены, - аднак Калінінградская вобласць дагэтуль не ўваходзіць у Еўрарэгіён «Нёман». Я на семінары прапанаваў калінінградцам увайсці ў «Нёман». Два раёны - Чарняхоўскі і Несцераўскі - адразу выказалі жаданне далучыцца.

***- Ці азначае гэта, што гарадзенцы будуць мець калінінградскую рыбу, кансервы, морапрадукты?***

- Не, размова не пра гэта. Калінінградская вобласць не мае вялікага аб'ёму вытворчасці тавараў. Гэты рэгіён вельмі прыцягальны для замежных інвестараў у першую чаргу - у плане перапрацоўкі прадукцыі. Наш інтарэс - рынак збыту нашых кансервавых вырабаў, прадукцыі мясамалочных заводаў. Цікавяцца яны нашымі пальчаткамі і абуткам. Не скарыстаць гэты шанс было б недапушчальна.

***- Што перашкаджае супрацоўніцтву Гарадзеншчыны і Калінінграда?***

- Ёсць праблема пагранічных пераходаў - неўладкаваныя прапускныя пункты, адсутнасць стандартаў пропуску. Мы да гэтай пары не мелі закону аб памежным супрацоўніцтве - у Расеі яшчэ ў лютым гэтага года ўхвалілі канцэпцыю такога супрацоўніцтва.

***- Ці апраўдаў сябе за чатыры гады існавання Еўрарэгіён «Нёман»?.***

- Апраўдаў? Так нельга ставіць пытанне. Еўрарэгіёнаў у свеце больш за сотню, і яны вельмі паспяховыя. У нас, на пачатковай стадыі (а чатыры гады - гэта пачатковы этап), - гаварыць пра акупаемасць рана. Цяпер ідзе працэс фармавання агульных падыходаў па розных накірунках - камунікацыі, культурныя і адукацыйныя абмены, эканоміка. Еўрарэгіён на стадыі існавання межаў паміж краінамі на самой справе дапамагае супрацоўнічаць уладам. Мы выказваем волю да супрацоўніцтва, а за намі не адстаюць і прыватныя структуры, і цэнтральная ўлада.

***- Аднак за гэты час у Еўрарэгіён «Нёман» Савет Еўропы ўклаў немалыя грошы?***

- За апошнія два гады ўкладзена каля трох мільёнаў даляраў. Усё ў нашых сілах - мы заклікаем удзельнічаць у праектах Еўрасаюза любыя ўстановы і арганізацыі вобласці. На сайце www.svekom.se/cbcpf можна пазнаёміцца з умовамі мікра-праграмаў на самыя розныя накірункі.



Віктар Здачук

***- А што б здарылася, калі б Еўрарэгіён перапыніў сваё існаванне?***

- Мы б страцілі давер і падтрымку Савета Еўропы. Работа Еўрарэгіёна сведчыць пра ступень дэмакратызацыі адносінаў паміж уладамі памежных раёнаў. Мы самі без аглядкі на вышэйшыя структуры арганізуем супрацоўніцтва. На бліжэйшы час у рамках Еўрарэгіёна запланаваныя канцэрты гарадзенскіх артыстаў, у прыватнасці, гітарыста Уладзіміра Захарава, для беларускай дыяспары ў Калінінградскай вобласці. Будуць «абмены» выкладчыкамі універсітэтаў. Распрацоўваюцца кантакты з Германіяй, Даніяй па развіцці сельскай гаспадаркі.

**Алена Сіневіч**

# «Азот» больш не турбуецца

**На мінулым тыдні генеральны дырэктар буйнейшага гарадзенскага прадпрыемства «Азот» Валерый Лангоў «супакоіў» працоўны калектыў. Ён паведаміў, што ані «Лукойл», ані іншыя нафтагазавыя кампаніі Расеі не зацікаўленыя ў набыцці завода. Дадзенае сцвярджэнне выклікала, прынамсі, недаўменне ў расейскіх інвестараў.**

Заява Валерыя Лангова прагучала ў інтэрв'ю заводскай шматтыражцы «Гродненский химик». «Чуткі яны і ёсць чуткі, якія не маюць пад сабою аніякай глебы», - так ахарактарызаваў дырэктар паведамленні некаторых СМІ аб планах расейскіх кампаніяў прыватызаваць адзінага ў краіне вытворцу азотных угнаенняў і капралактаму. Лангоў падкрэсліў таксама, што праз двое сутак пасля візіту на прадпрыемства групаў спецыялістаў «Лукойла» ды «Інтэры» (гэта значыць, месяц таму) у канцэрне «Белнафтахім» адбылася нарада.

- Стала зразумела, што расейскія фірмы зацікавіліся «Нафтанам» і «Палімірам» ды адным прадпрыемствам магілёўскага хімвалакна, якое выробляе загатоўкі для пластыкавых бутэлек, - паведаміў Лангоў.

«Азотам», выходзіць, «Лукойл» не зацікавіўся.

Інфармацыя Лангова пацвердзілася ў Гарадзенскім аблвыканкаме.

- Ніякай прыватызацыі «Азота» не будзе, - заявіў кіраўнік Упраўлення інфармацыі і друку аблвыканкама Уладзімір Амелька. - Прадпрыемства застанецца беларускім, і яму будзе аказана дзяржаўная падтрымка.

Гэткая шчырасць самага буйнога з патэнцыйных расейскіх інвестараў - кампаніі «Лукойл» - выклікала недаўменне.

-Дырэктар так сказаў?.. Ну што ж... Са свайго боку, магу заявіць, што «Лукойл» не змяніў сваёй пазіцыі па «Азоту» і ніякіх афіцыйных рашэнняў на гэты конт не прымаў», - заявіў карэспандэнту ПАГОНІ кіраўнік прэс-службы расейскай кампаніі Зміцер Далгоў.

Нагадаем, што пазіцыя «Лукойла» па «Азоту» выяўлялася ў зацікаўленасці інвеставання ў дадзенае прадпрыемства пры ўмове прыняцця беларускім урадам адпаведнай пастановы.

Рашэнне па гэтым пытанні яшчэ не прымалася, што пацвярджаюць і ў Маскве. А таму імкненне дырэктара «Азота» «супакоіць» працоўны калектыў трэба расцэньваць як заўчаснае. Аднак, упэўненасць Валерыя Лангова можа быць абгрунтаваная на невядомай пакуль што расіянам прынцыповай пазіцыі па «Азоту» Саўміна і прэзідэнта, якія расцэньваюць гарадзенскі хімічны гігант як інструмент для субсідавання стратнай сельскай гаспадаркі краіны.

Нагадаем, што «Азот» усе апошнія гады мае страты ад продажу мінеральных угнаенняў (па цане ніжэй за сабекошт) калгасам і саўгасам рэспублікі. У гэтым годзе (па стану на канец жніўня) гэта прывяло да балансавай стратнасці прадпрыемства, якая вылілася ў суму 5 мільярдаў 119 мільёнаў рублёў. Падобны паказчык быў «дасягнуты» за кошт значнага пагаршэння сусветнай коштавай кан'юнктуры на асноўную экспартную прадукцыю завода - капралактам, рэнтабельнасць якога знізілася ў гэтым годзе да нуля. Такім чынам, «Азот» не змог кампенсаваць страты ад гандлю з калгасамі за кошт знешняга гандлю.

Тым часам на заводзе востра стаіць пытанне абнаўлення асноўных фондаў, знос якіх даўно перасягнуў дапушчальныя нормы. Іншымі словамі, прадпрыемства адчувае вострую патрэбу ў капіталаўкладаннях, якія здолелі б здзейсніць расейскія кампаніі ўзамен на магчымасць з выгадай гандляваць прадукцыяй прадпрыемства. Аднак тое, што добра для завода, для калгасна-рынкавага сацыялізму - смерці падобна.

Мяркуючы па ўсім, менавіта гэтае мысленне атрымала перамогу ў розумах кіраўніцтва Беларусі. І менавіта гэтым тлумачыцца ўпэўненасць дырэктара «Азота» ў тым, што прадпрыемства акцыянаванае не будзе. Хаця вынік перамоваў беларускага ўрада з расейскімі нафтавымі кампаніямі аб прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў будзе вядомы толькі ў лістападзе.



Дым страчаных ілюзіяў?

Фота REX/ProMedia

**Анджэй Пісальнік**

# Сумная гісторыя

## пра тое, як адзін прадпрымальнік паспрабаваў вырашыць каровіну праблему, і што з гэтага атрымалася

**У сваіх чарговых перадвыбарных абяцаннях Аляксандр Лукашэнка не забыўся і на прыватны бізнес. Сказаў, што дзяржава, ім кіруемая, будзе яму, гэта значыць бізнесу, усяляк дапамагаць і садзейнічаць. (Бо з бюджэтам справа - дрэнь). Аднак каманда «Аказаць падтрымку!» штосьці не спрацоўвае. Не квітнее пышным цветам прыватны бізнес. За сем гадоў відавочнага і скрытага здзеку над беларускім прадпрымальніцтвам створана такая сістэма супраціўлення ініцыятыве, што адважыцца на ўдзел у гэтай барацьбе, што вымотвае сілы, нервы і, нарэшце, сродкі, могуць рэдкія адзінкі.**

Дзмітрый Курносаў мае немалы досвед у прыватным бізнесе. У нядаўнім мінулым дацэнт Гарадзенскага дзяржуніверсітэта, журналіст, у свае 65 гадоў ён вельмі энергічны і можа даць фору па аптымізму і тэмпераменту многім маладым людзям. Ён быў адным з першапраходцаў на полі гарадзенскага прадпрымальніцтва. Ёсць вялікі досвед, сувязі, нарэшце, энтузіязм. Ён з гонарам заяўляе, што зусім нядаўна, у сакавіку гэтага года яму ўдалося зарэгістраваць фірму на працягу месяца. Сапраўды, рэкорд па нашых часах. Але шпаркі старт не стаў гарантыяй паспяховага развіцця Таварыства з дадатковай адказнасцю «Эўрыка г.Гродна». Нягледзячы на энергію і шматлікія сувязі Дзмітрыя Міхайлавіча, яго праекты церпяць крах адзін за адным.

У нашых шматпакутных калгасах і саўгасах часта чаго-небудзь не хапае. То бензіну, то кармоў, то грошай, то ўсяго гэтага аднначасова. З нейкіх часоў да гэтага спісу дадалася яшчэ адна надзвычай важная дэталь тэхналагічнага працэсу - саскова гума. Для тых, хто далёкі ад працэсу атрымання малака, патлумачым: гэта тое, што надзяваецца на саскі каровы падчас дойкі і замяняе рукі даяркі. Як сказаў загадчык аддзела жывёлагадоўлі і будаўніцтва Унітарнага прадпрыемства Аблсельгастэхніка Аляксандр Карась, на жаль, у Беларусі не здолелі асвоіць вытворчасць гэтых вырабаў належнай якасці, як ні стараліся. Таму даводзіцца завозіць іх альбо з Кіева, альбо з Курска. Прычым, аддаецца перавага курскай гуме. Вось гэты этап і ўзяўся асвоіць Дзмітрый Курносаў.

- Я паехаў у Курск, - расказвае ён, - дамовіўся наконт колькасці і кошту. Узяў рахунак на пробную партыю ў 10 тысяч адзінак (гадавая патрэба вобласці ў іх блізу 100 тысяч у год. - **Заўвага Н.П.**). Прывёз рахунак у Гродна. Для правядзення гэтай фінансавай аперацыі мы адкрылі дадаткова два валютныя рахункі (а гэта безліч дадатковых турботаў і грошай) для канвертацыі і пераводу расейскіх рублёў у Курск. Заключылі дамову. І... на гэтым усё скончылася. Грошай у сельгасупраўлення не аказалася нават на такую партыю гумы.

- Разумееце, - тлумачыць сітуацыю спадар Карась, - у нас жа ўсе гаспадаркі вобласці на 75 працэнтаў цэнтралізавана забяспечвае сістэма Сельгастэхнікі. А гэта і майстэрні, і транспарт, і мехатрады ды іншае. Калгасы зацікаўленыя ў сасковай гуме і гатовыя плаціць за яе самі, але... Усё, што паступае ад гаспадарак, ідзе ў агульны кацёл. І калі там дойдзе за аплаты за рамонт даільнага абсталявання, невядома.

Затое вядома, што ў вышэйназванай Сельгастэхнікі ніколі не хапае грошай, таму што тыя ж калгасы ёй жа і вінаватыя. Замкнёнае кола праслаўленай сацыялізмам цэнтралізаванай сістэмы гаспадарання. Якая армія чыноўнікаў сочыць за напаўненнем гэтага самага агульнага катла! А што ў выніку?

Гаспадаркі Гарадзеншчыны па-ранейшаму адчуваюць востры дэфіцыт у сасковай гуме. Тая, што ўсё-ткі даходзіць да жывёлаводаў, выкарыстоўваецца да поўнага зносу. Але і зусім зношаныя, па прызнанню спадара Карася, не выкідваюць, а абмотваючы нейкімі анучкамі, зноў надзяваюць на каровіныя саскі.

Ёсць у Дзмітрыя Міхайлавіча яшчэ гісторыяў пяць пра тое, якія ў яго ўзнікалі цудоўныя прадпрымальніцкія ідэі, якім не наканавана было ажыццявіцца з прычынаў, што ад яго не залежалі. Напрыклад, гісторыя з пастаўкамі ў Калінінград партландцэменту маркі 500.

- Прыехаў я разам з намеснікам старшыні Ваўкавыскага райвыканкама да генеральнага дырэктара Адкрытага акцыянернага таварыства «Красна-сельскбудматэрыялы» Валянціна Верацілы. «Колькі, - пытаюся, - можаце ў год даць цэменту?» Вераціла адказаў, што 100 мільёнаў тон. У іх жудасныя праблемы са збытам. А Калінінград мог праглынуць і болей. Але кошт - 29 даляраў за тону. Калінінградцы на гэта толькі рассмяяліся. Мы, маўляў, самі вам па 22 даляры з Наварасійска паставім. Вось і ўсё. Згарэў праект. Наша прадукцыя неканкурэнтная па цэнах.

Потым была спроба пастаўляць рэчывы і рэактывы, вельмі неабходныя нашым хімічным прадпрыемствам. Але, як у выпадку з Сельгастэхнікай, у дзяржаўных прадпрыемстваў няма грошай на перадаплату. Усе яны прапануюць прыватніку заплаціць сваімі за патрэбную ім прадукцыю. А мы, маўляў, табе потым вернем. «Ну, не, - гаворыць дасведчаны Дзмітрый Курносаў, - дурных няма». У нашай справядлівай дзяржаве даўгі спісваюцца толькі з дзяржпрадпрыемстваў. А прыватнік у выпадку чаго адкажа па поўнай праграме.

Трэба сказаць, што нягледзячы на няўдачы, Дзмітрый Міхайлавіч па-ранейшаму верыць у свой поспех. Калі-небудзь. А пакуль штомесяц наведвае падатковую інспекцыю, каб напісаць чарговае тлумачэнне, чаму ад зарэгістраванай у сакавіку бягучага года фірмы «Эўрыка г.Гродна» дагэтуль не паступіла ў казну ні капейкі падаткаў. Ды ўжо за падаткамі ў нас сачыць умеюць. Вось толькі кантроль сам па сабе не можа павялічыць грашовы паток у кішэню дзяржавы. Спосабы выйсця з гэтага становішча вядомыя ўсяму цывілізаванаму свету, яны неаднойчы агучваліся і нашымі эканамістамі. Але мудрае беларускае кіраўніцтва вядзе краіну сваім асобым шляхам да росквіту.

**Ніна Палуцкая**

# Барцы на ўзроўні

**Учора пасля паспяховага выступлення ў Чэмпіянаце свету сярод ваеннаслужачых і міжнародным турніры, які праходзіў у Марыупалі, вярнуліся гарадзенскія грэка-рымляне.**

Так, на сусветным першынстве Сяргей Сідарэнка дайшоў да фіналу, у якім, на жаль, саступіў чэмпіёну Расеі Саміргажаву.

У Марыупалі гарадзенцы сабралі больш вялікую калекцыю - чатыры з дзевяці выхаванцаў Вячаслава Максімовіча сталі прызёрамі спаборніцтваў. Алег Міхаловіч у катэгорыі да 76-ці кілаграмаў саступіў у фінале чэмпіёну Украіны Сяргею Крапіўкіну. Трэцімі месцамі адзначыліся Уладзімір Уласаў (54 кг), Генадзь Бісарабаў (58 кг) і Сяргей Юрчак (97 кг).

На мінулым тыдні Міжнародная федэрацыя барацьбы прыняла рашэнне аб пераносе першынства свету. З 29-га лістапада на 2-е снежня ў Балгарыі пройдзе чэмпіянат па вольнай барацьбе, 8-9-га снежня ў Грэцыі - па грэка-рымскай барацьбе.

# Гарадзенскія грацыі

**У суботу ў гарадзенскай вучэльні алімпійскага рэзерву скончыўся адкрыты чэмпіянат гораду па мастацкай гімнастыцы.**

Выдатна на ім выступілі выхаванкі Наталлі Каржанеўскай, якія заваявалі тры ўзнагароды. Так, у малодшай групе (89-90 гадоў нараджэння) Екацярына Шчэрбіна заняла першае месца, другой была Іра Сульба, у класе майстроў на другое месца выйшла Вольга Валедава. Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя дзяўчаты плюс Вольга Пурута ўваходзяць у склад нацыянальнай зборнай Беларусі.

Астатнія вынікі. Майстры: I - Вольга Шапавалава, II - Вольга Валедава, III - Аліса Жураўская. 87/88 гады нараджэння: I - Юлія Пурута, II - Вераніка Віценберг, III - Ганна Цыдзік. 89/90 гады нараджэння: I - Кацярына Шчарбіна, II - Ірына Сульба, III - Надзея Якімчык.

# Слонім - більярдны цэнтр Гарадзеншчыны

**Трэцяе месца сярод 32-х мацнейшых більярдзістаў заняў слонімец Дзяніс Комлеў на Чэмпіянаце Беларусі па більярднаму спорту ў камбінацыі, які скончыўся 14-га кастрычніка ў менскім більярдным клубе бізнес-цэнтра XXI стагоддзя і більярдна-спартовым клубе «Піраміда».**

Фаварыт спаборніцтва, сёлетні чэмпіён рэспублікі ў «Пірамідзе» і «Маскоўскай пірамідзе», другі прадстаўнік Слонімшчыны Ігар Купала застаўся па-за тройкай мацнейшых. Аднак у Ігара будзе магчымасць у трэці раз узняцца на прыступку пераможцы нацыянальнага першынства па «Пулу 9», які на гэтых выхадных упершыню пройдзе ў менскім більярдна-спартовым клубе «Шчаслівы ўдар».

# «Хімвалакно» прымае віншаванні

**Перамогай футбалістаў гарадзенскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» скончыўся турнір па міні-футболе, які праходзіў у Гродне з 12-га па 15-е кастрычніка. Другое месца заняла каманда «ТТС» (тэлеграфна-тэлефонная станцыя), трэцяе - «Масты» (Мастыдрэў).**

Да завяршальнай стадыі падыходзіць футбольны турнір сярод мацнейшых камандаў горада. З сённяшняга дня на стадыёнах Сельгасакадэміі ды Гарадзенскага універсітэта (пачатак сустрэчаў - у 15.00 і 16.30) распачнуцца гульні ў групах «А» і «Б».

Па дзве лепшыя каманды падгрупаў выйдуць у паўфіналы, якія адбудуцца 22 кастрычніка. На наступны дзень пройдзе фінал турніру і сустрэча за трэцяе месца.

# 30 гадоў спартоваму клубу «Азот»

**30-годдзе свайго існавання адзначыў на мінулым тыдні гарадзенскі спартова-тэхнічны клуб «Азот».**

З гэтай нагоды быў праведзены турнір па матаболе, пераможцамі ў якім выйшлі матабалісты «Азота». Яўген Глазаў перамог у спаборніцтвах па матакросу, а Аляксандр Беларукаў - у фігурным кіраванні матацыклам з элементамі спартовага майстэрства. Эпагеем урачыстасці было выступленне каралевы турніру - дзевяцігадовай Івоны Нічыпар, якая нягледзячы на свой узрост, цудоўна авалодала матабайкам.

Напрыканцы першынства пяці матабалістам «Азота» - Алегу Сіднёву, Віталю Лупачу, Валянціну Ермаліцкаму, Віталю Кашкахе і Анатолю Фёдараву - за трэцяе месца ў Чэмпіянаце Беларусі ўручылі значкі кандыдатаў у майстры спорту.

# «Нёман» замыкае табліцу

**Чэмпіянат Усходне-Еўрапейскай Хакейнай Лігі. Група «А». 12-13 кастрычніка. «Нёман (Гродна) - «Рыга» 4:5 (1:0 - Пстыга, (Лісічкін, 11.32 - больш). 2:2 - Гаўрылаў (Кулянок, Пстыга, 36.02). 3:3 - Гаўрылаў (42.33). 4:3 - Калмычкоў (Нічыпухін) - 49.26) - больш і 0:2.**

Паразы ў абедзвюх хатніх гульнях адкінулі гарадзенскі «Нёман» на нязвыклае апошняе месца ў чэмпіянаце.



Аляксандр Пстыга N51

У першай сустрэчы адбылося тое, што так даўно чакалі прыхільнікі «Нёмана» - Аляксандр Пстыга закінуў юбілейную 100-ую шайбу ў складзе гарадзенцаў. Так супала, што 14 кастрычніка споўнілася дзесяць гадоў, як у нашым горадзе адбылася першая хакейная дуэль на штучным лёдзе паміж «Нёманам» і «Буранам». І першую шайбу ў гэтай сустрэчы давялося закінуць менавіта Аляксандру. Пра гэта памятаў сам нападнік, таму і дзейнічаў у пятнічнай гульні адвольна. Доказам гэтага з'яўляюцца тры закінутыя шайбы звяна Пстыгі - адна цэнтрфорварда і дзве расіяніна Гаўрылава (якога ўрэшце рэшт змог дазавяць «Нёман»). Шайбу, якая прынесла нашым хакеістам адзінае ачко па суме дзвюх сустрэчаў, закінуў Кірыл Калмычкоў. З дакладнага пасу свайго партнёра па абароне Дзмітрыя Нічыпухіна Кірыл у сярэдзіне трэцяга перыяду вывеў «Нёман» наперад - 4:3. Аднак гэтай перавагі нашыя хакеісты не здолелі ўтрымаць. За 2.52 да заканчэння асноўнага часу Панцялееў прымусіў капітуляраваць свайго былога аднаклубніка, брамніка «Нёмана» Арунаса Алейнікава. Акрыленыя гэтым поспехам, за 13 секундаў да заканчэння дадатковай 5-хвілінкі рыжане вырвалі перамогу.

Відаць па ўсім, не ачунялі гарадзенцы і на наступны дзень. Пачатак другой сустрэчы ўвогуле іх збянтэжыў. Ужо на 51-й секундзе капітан рыжанаў Храмчанкоў вывеў сваю каманду наперад. На гэта нёманцы адказалі вялікай колькасцю кідкоў па браме Эдгараса Эйхвальдса, які ў гэты дзень не даў ніводнага шанса гарадзенцам на поспех. Усе кідкі нашых хакеістаў спыняў непрабіўны Эйхвальдс. Калі рыжаніна гарадзенцы пакідалі ў баку, на дапамогу яму прыходзілі штангі.

Рэальную магчымасць аднавіць раўнавагу на табло меў Аўчыннікаў, калі на лаве штрафнікоў у «Рыгі» знаходзіліся два хакеісты. Двойчы нашага абаронцу выводзілі на завяршальны кідок партнёры. Аднак дакладнасці гарадзенцу не ставала. А рыжане свайго шанса не выпусцілі. Падчас адпачынку Сяргея Жданава, абаронца рыжанаў Міранові усталяваў сумны для гарадзенцаў лік - 0:2.

Каментары да гульні

**Анатоль Варывончык**, галоўны трэнер «Нёмана»:

*- На працягу сённяшняй і ўчарашняй сустрэчаў супернік куды вастрэй нападаў. Учора больш заканамернай была б нічыя. Сёння «Рыга» перамагла па праву. Хаця мы і зрабілі больш кідкоў па браме «Рыгі», аднак кідкі ачкі не прыносяць. Вялікія праблемы мы адчуваем у абароне. У нас няма кваліфікаваных абаронцаў, якія маглі б талкова дзейнічаць ля сваёй брамы. Вялікія складанасці ў «Нёмана» і з цэнтральнымі нападнікамі. Напрыклад, Вадзім Смірноў гуляе зараз на ўколах. Ігару Сцефановічу не стае хуткасных дадзеных. А вось фізічнай моды ў яго хапае. Аляксандр Пстыга, скажам так, ужо гуляе з апошніх сілаў. Увогуле, у мяне ёсць прэтэнзіі да ўсіх хакеістаў «Нёмана».*

**Эвальд Грабоўскіс**, галоўны трэнер «Рыгі»:

*- У гэтых сустрэчах нам удалося дасягнуць максімальнага выніку. У другой гульні мы выглядалі значна мацней. Усё, на што мы былі здольныя на сённяшні дзень, змаглі прадэманстраваць.*

# «Алімпія» без Кубка

**Гарадзенскія баскетбалісткі «Алімпіі» не здолелі абараніць званне ўладальніцаў Кубка Беларусі. Упершыню ў гісторыі ўладальніцамі ганаровага трафея сталі дзяўчаты барысаўскай «Беразіны», якія і нанеслі гарадзенкам адзіную паразу - 83:62.**

*- На сённяшні дзень мы занялі сваё другое месца - адзначае ПАГОНІ* **Аляксандр Шымкавяк**, галоўны трэнер «Алімпіі». *- Атрымалася так, што ў першай гульні мы лёгка перамаглі гарадзенскі «ВАР» - 95:40. Потым разграмілі «Гарызонт - 88:50. У гэтай гульні дзяўчаты прадэманстравалі казачны баскетбол. У нас усё атрымлівалася. Гэтай перамогай «Алімпіі» ўжо практычна было гарантавана другое месца. Выдатна пачалі на трэці дзень гульню з «Беразіной». Пасля першай 10-хвілінкі былі наперадзе - 26:24. Потым як адрубіла - не можам трапіць у кальцо. У выніку мы прайгралі. Аднак расчаравання няма. Мы прымусілі гаварыць аб «Алімпіі» добра і з павагай.*

Другая каманда Аляксандра Шышкаўка «ВАР», аснову якой складаюць дзяўчаты, што не трапляюць у склад «Алімпіі», перамагла менскую «РВАР» і заняла чацвёртае месца.

# Пяць крокаў да п'едэсталу

Сёння а 16-й гадзіне футбалісты «Нёмана» сустрэчай з барысаўскім «БАТЭ» распачнуць пяцітуравы адрэзак, які будзе вянчаць заканчэнне 11-га нацыянальнага першынства па футболе.

Адказ на пытанне адносна медальных перспектываў гарадзенцаў павінны даць тры бліжэйшыя гульні гарадзенцаў з «БАТЭ»; мазырскай «Славіяй» у Гродне і з «Дняпром-Трансмашам» у Магілёве. Пасля чаго гарадзенцам застанецца на сваім полі прыняць «Маладзечна-2000» і сустрэцца ў Салігорску з «Шахцёрам».

У нядзелю салігорскі «Шахцёр» выбіў гарадзенцаў з 1/8 Кубку Беларусі. Ужо на восьмай хвіліне нашыя футбалісты былі вымушаныя адыгрывацца. За фол супраць Безбародава 11-мятровы выкарыстаў Падрэз. На 75-й хвіліне Віталь Тарашчык аднавіў раўнавагу. Аднак, праз сем хвілінаў актыўны Безбародаў забіў ужо сам (2:1). «Нёман» спыняе свой шлях у Кубку, зрэшты, як і ўладальнік сёлетняга трафея - бабруйская «Белшына». Безумоўны лідар чэмпіянату буйна саступіў светлагорскаму «Хіміку» - 3:0.

**Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі**

АДПАЧЫНАК

# Музейная справа ў правінцыі

**Сёння ў Слоніме ўжо другі дзень праходзіць абласны семінар «Музеі ў сучасных умовах. Праблемы існавання і развіцця», арганізаваны Упраўленнем культуры абласвыканкама.**

Гонар над Шчарай быў нездарма абраны для правядзення нарады музейшчыкаў. Тут знаходзіцца Слонімскі краязнаўчы музей, у якім ёсць шмат каштоўных экспанатаў, а ў супрацоўнікаў багаты досвед працы. Удзельнікі семінару наведаюць таксама Жыровічы, дзе на базе сельгастэхнікума ствараецца філіял Слонімскага краязнаўчага музея.

**Ігар Гандлеўскі**

# У «Тызенгаўза» падвысілася энергетыка

**Новы сезон Галерэя Тызенгаўза пачала персанальнай выставай гарадзенскага мастака Вацлава Спорскага.**

У мінулую пятніцу галерэя ўзнавіла работу пасля летняга перапынку, абумоўленага вельмі празаічнымі прычынамі. Летнія лівні так падмачылі залы «Тызенгаўза», што пасавалі сцены і нават такую-сякую маёмасць, што займацца выстаўной дзейнасцю не было ніякай магчымасці. Гаспадыня галерэі **Галіна Сарока** вымушаная разлічваць толькі на сухое надвор'е.

*- Мы перапынялі свой выставачны сезон на тры месяцы,* - гаворыць **Галіна Канстанцінаўна**. *- Але з вернісажам Вацлава Спорскага запрашаем аматараў мастацтва на рэгулярныя выставы. Да канца гэтага года пройдуць яшчэ дзве выставы маладых мастакоў - Руслана Карчаулі і Андрэя Філіповіча. Ёсць планы супрацоўніцтва з віцебскімі і полацкімі мастакамі.*

А Вацлаў Спорскі ў Галерэі Тызенгаўза выступіў з дэбютам - да гэтай пары ўсе яго ныя выставы праходзілі за мяжою. На вернісажы мастак выглядаў усхваляваным, нешматслоўным і трымаўся кола сваіх сваякоў ды знаёмых. Як гэта ні дзіўна для мастака, ён прызнаўся:

*- Вельмі хачу падзякаваць сваёй жонцы - яна мяне падштурхоўвае і вызваляе ад усіх жыццёвых драбніцаў. У гэтай выставе - на 50 працэнтаў яе заслуга.*

На правакацыйныя пытанні кшталту «А што Вы хацелі сказаць сваімі карцінамі?», «Якая з работаў Вам больш удалася?» Вацлаў Спорскі загадкава адказваў: «Глядач разбярэцца сам».

Мастацтвазнаўца ж Наталля Паўленка сцвярджае, што выстава Спорскага проста энергетычна пранізвае галерэю. Шмат карцінаў з выставы ўяўляюць сабой некаторую прэтэнзію на філасофскія алегорыі. У цэлым экспазіцыя пабудаваная на антытэзе каляровай актыўнасці - эмацыйна напружаныя каляровыя плямы суседнічаюць з бледнымі, як туманны краявід, выявамі.

**Алена Сіневіч**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб`яднанне "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 17.10.2001 г. Замова 2 944 Наклад 6 828

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб`ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Кампутарная вёрстка: **Аляксей Салей**
Кампутарны набор: **Ірына Салей**
Рэкламны менеджэр: **Ната Сакалова**